Выдавец:
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.
Выдаецца са снежня 1994 года
№ 16 (837) 21 красавіка 2016 года.
Кошт свабодны.

Штотыднёвая газета
# Вольнае Глыбокае
vglybokaye@tut.by





У Глыбокім пачаў працу праваслаўны фестываль "Кладзезь", які будзе праходзіць да 23 красавіка. *Фота Зм. Лупача.*



## З 1 мая пенсіянеры будуць плаціць за праезд у электрычках 50% ад цаны

З 1 мая па 30 верасня, на перыяд сезонных сельскагаспадарчых работ, пенсіянеры (мужчыны, якія дасягнулі 60 гадоў і жанчыны — 55 гадоў) маюць права на зніжку 50% ад кошту праезду ў цягніках рэгіянальных ліній эканом-класа, паведамляе сайт Беларускай чыгункі.

Дакументам не прадугледжваецца гэта льгота пры праездзе ў электрацягніках рэгіянальных ліній бізнэс-класа (з нумараванымі месцамі), а таксама пры праездзе ў цягніках гарадскіх ліній.

Для набыцця праязных дакументаў са зніжкай пасажырам неабходна прад'яўляць арыгіналы пенсійных пасведчанняў, нагадвае сайт Белчыгункі.

*pn.by*



## Боепрыпасы часоў Першай сусветнай вайны выявілі памежнікі ў Пастаўскім раёне

**14 красавіка ў памежнай зоне паблізу ад вёскі Романишки Пастаўскага раёна памежнікі сумесна з міліцыянерамі выявілі боепрыпасы часоў Першай сусветнай вайны.**

Падчас адмысловых комплексных мерапрыемстваў «Арсенал» у лясной багністай мясцовасці было выяўлена 493 медных капсуль-дэтанатараў, 184 артылерыйскіх выбухоўнікаў, 48 ручных гранат узору 1915 года і яшчэ 37 – узору 1917 года.

Усе знойдзеныя боепрыпасы былі знішчаны групай размініравання, паведамляе прэс-служба Дзяржаўнага памежнага камітэта.

***ННВ***



ISSN 2077-8023


## Талачынскі раён

# Пасяўная не без цяжкасцей

■ Чэслаў Якубовіч.

**Калі на поўдні Беларусі многія гаспадаркі ўжо завяршалі сяўбу ранніх яравых зерневых, то ў Прыдзвінні веснавая пасяўная сёлета толькі стартавала.**

Паколькі глеба паўсюдна хутка падсыхае і вільгаці ў зямлі недастаткова, то ў Талачынскім раёне былы вопытны глава вобласці, старшыня ніжнай палаты парламента Уладзімір Андрэйчанка запатрабаваў з улікам тэхнічных матчымасцей правесці за 10 дзён сяўбу зернебабовых і рапсу. Праўда, у гэтым рэгіёне, як і ў цэлым па Віцебшчыне, узніклі сур'ёзныя праблемы з забеспячэннем большасці сельгаспрадпрыемстваў мінеральнымі ўгнаеннямі і азотам. На Талачыншчыне таксама ўдалося стварыць толькі двухдзённы запас паліва і толькі палову мясцовых гаспадарак перавесці на працу ў полі ў дзве змены, а нагрузка на кожны трактар атрымалася сёлета ў сярэднім 175 гектараў. У гэтай сітуацыі спецыялісты павінны думаць, якія палеткі апрацоўваць у першую чаргу. Госць са сталіцы застаўся задаволеным, убачаўшы працу сельскіх агрэгатаў на палях мясцовага кансервавага завода, дзе штодзённа засявалі па 150-170 гектараў яравой пшаніцы. На гэтым вядомым прадпрыемстве таксама лепш за ўсіх у краіне ўмеюць вырошчваць і бульбу заходніх селекцый, маюць значныя яблыневыя сады і ўчасткі з рознымі ягадамі. Пасля знаёмства з ходам пасяўной спікер парламента ўжо ў самім райцэнтры ўдзельнічаў ва ўрачыстай цырымоніі запуску ў эксплуатацыю новага цэха Талачынскага кансервавага завода па вытворчасці натуральных сокаў. На поўнасцю аўтаматызаваным абсталяванні там пачалі выпускаць кожную гадзіну да 4 тысяч літраў яблычна-персікавых нектараў і сокаў з яблыкаў і журавін. Завод запатэнтаваў свае навінкі пад брэндам "Фруто-круто" і неўзабаве пачне разліваць сокі з уласнай сыравіны – са смародзіны і нават рабіны.

## Пастаўскі раён

# Хто шукае, той знаходзіць

■ Кастусь Александровіч

**У сілу розных прычын цяпер, асабліва ў глыбінцы, няпроста стала знайсці нейкую працу з-за крызісу і страты многімі вытворцамі ранейшых рынкаў збыту.**

Аднак там, дзе не апускаюць рукі і не пасуюць перад узнікшымі цяжкасцямі, то гэтыя праблемы вырашаюцца, у чым пераканалася міністр працы і сацабароны Беларусі Марыяна Шчоткіна падчас рабочай паездкі ў Пастаўскі раён. Напрыканцы года ў райцэнтры будзе запушчаны ў эксплуатацыю суперсучасны філіял мясцовага мэблевага цэнтра па вытворчасці трохслойнай паркетнай дошкі, куды возьмуць на работу 80 рабочых і служачых. Міністр была ўражана памерамі і тэмпамі ўзвядзення новага завода за некалькі месяцаў, дзе ўжо летам пачнецца мантаж і адладка найноўшага абсталявання, набытага за ўласныя сродкі і доўгатэрміновыя крэдыты. Прыгэтым на самім ПМЦ працуе па-ранейшаму каля 700 чалавек і ў асноўным на экспарт штомесяц адгружаюцца да 15 тысяч штук міжпакаёвых дзвярэй з каштоўных парод дрэў. Настрой у міністра прыкметна палепшыўся там, бо было бачна, што праведзеная мадэрнізацыя прынесла свой плён. Выдатныя ўражанні ў главы ведамства пакінула потым і знаёмства з адкрытым у горадзе мінулай восенню цэнтрам падтрымкі пажылых людзей. У пуставаўшым памяшканні пры падтрымцы ўлад, спонсараў для іх стварылі фактычна акадэмію так званага "трэцяга ўзросту", дзе ёсць камп'ютарны клас, трэнажорная і актавая залы, пакоі для заняткаў у розных гуртках і для адпачынку, розныя лячэбныя кабінеты. Такія вось спланаваныя наватарскія падыходы прыносяць добрыя вынікі і прыклад пастаўчан варты пераймання і ў іншых кутках краіны.

## Лёзненскі раён

# І куды яны ляцяць?

■ Станіслаў Раманчук.

**У гэтым годзе вясна не толькі ранняя, ставіць тэмпературныя рэкорды цяпла, але адначасова з рэзкім павелічэннем аўтатранспарту на дарогах адбылося ўжо шэраг сур'ёзных аварый.**

Самае ж жудаснае паведамленне прыйшло з Лёзна, дзе а дзявятай гадзіне вечара паблізу райцэнтра кіроўца збіў трох школьнікаў-старшакласнікаў. Усе юнакі да таго ж мелі на вопратцы святлоадбіўныя элементы, але як гэта не заўважыў на аўтастрадзе Віцебск-граніца Расіі 39-гадовы вадзіцель з абласнога цэнтра, будуць разбірацца следчыя. У той трагічны вечар віцебскі кіроўца, напэўна, ехаў на хуткасці і так разагнаў мікрааўтобус "Iveco", што збіў маладых пешаходаў, якія ішлі па краю праезнай часткі дарогі. У выніку дарожнага здарэння прама на месцы загінуў вучань выпускнога 11 класа. З рознымі траўмамі даставілі ў бальніцу ягоных сяброў, вучня на год маладзей і 16-гадовага хлопца, які з'яўляецца грамадзянінам РФ, але мае від на жыхарства ў нашай краіне. Яны будуць жыць, але напэўна яшчэ доўга будуць адыходзіць ад перажытага шоку. Дарэчы, у той самы дзень толькі з раніцы ўжо ў Полацку сутыкнуліся лоб у лоб дзве іншамаркі. У выніку ДТЗ аказалася, на шчасце, трое параненых, а адну з пасажырак мінчанку так моцна заціснула ў салоне, што яе дасталі адтуль толькі з дапамогай спецыяльнага абсталявання. Праз дзень у суседнім Наваполацку маладая жанчына-кіроўца збіла на пешаходным пераходзе 9-гадовага гімназіста, якога таксама даставілі ў бальніцу.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 21.04.16 | | | | Пятніца 22.04.16 | | | | Субота 23.04.16 | | | | Нядзеля 24.04.16 | | | | Пан. 25.04. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +2 | +3 | +6 | +4 | +4 | +4 | +6 | +5 | +2 | +3 | +7 | +5 | +3 | +4 | +8 | +10 | +9 | +11 | +15 |
| Ціск | 745 | 746 | 746 | 745 | 741 | 737 | 737 | 741 | 743 | 745 | 745 | 745 | 744 | 741 | 738 | 739 | 739 | 740 | 740 |
| Вецер м/сек | 5 | 5 | 6 | 3 | 4 | 3 | 3 | 2 | 3 | 2 | 2 | 2 | 5 | 6 | 7 | 3 | 7 | 7 | 9 |
| | С-З | С-З | С-З | З | Ю-З | Ю-З | С | С-З | С-З | Ю-З | Ю-З | Ю-В | Ю-В | В | Ю-В | Ю | Ю-В | Ю-В | Ю-В |
| Вільготнасць | 90 | 92 | 60 | 63 | 92 | 96 | 82 | 86 | 92 | 89 | 62 | 81 | 83 | 95 | 95 | 92 | 82 | 84 | 69 |

# Аб самым надзённым

## УЖО Ў ПАЛОВЕ БЕЛАРУСКІХ РЭГІЁНАЎ ЗАРОБКІ Ў ЛЮДЗЕЙ СТАЛІ МЕНШЫЯ, ЧЫМ ПЕНСІІ Ў ЛІТОЎЦАЎ



■ Аляксандр Цішкевіч.

**А ў нас даследванні незалежных вучоных-сацыёлагаў выявілі, што за апошнія 9 месяцаў даходы беларусаў зменшыліся амаль на 40 %. Ад беларускай сталіцы да ўскраін назіраецца пагаршэнне эканамічнага становішча насельніцтва ўжо ў 59,6 % апытаных суайчыннікаў.**

У гэтым годзе, бадай, толькі камфортнае надвор'е больш усяго радуе беларусаў, бо пражылі без суровай зімы, а на ранняе сёлета свята каталіцкага Вялікадня ўвогуле было сонечна і цёпла. У такі момант міжволі на душы становіцца радасней і жыць робіцца вясялей, паколькі ў паўсядзённым жыцці большасці з нас пераважаюць шэрыя будні. Як-ніяк, а да нас дабраўся і працягваецца сур'ёзны сістэмны эканамічны крызіс. Праўда, на еўрапейскім кантыненце, за выключэннем занятых паміж сабой гібрыднай вайной Украіны з Расіяй, сітуацыя паўсюдна адрозніваецца ў лепшы бок.

А ў нас даследванні незалежных вучоных-сацыёлагаў выявілі, што за апошнія 9 месяцаў даходы беларусаў зменшыліся амаль на 40 %. Ад беларускай сталіцы да ўскраін назіраецца пагаршэнне эканамічнага становішча насельніцтва ўжо ў 59,6 % апытаных суайчыннікаў. У адрозненне ад Мінска і буйных гарадоў, яшчэ больш прыкметна ўпалі заробкі ў глыбінцы, дзе незвычайна пуста цяпер у большасці магазінаў і на рынках, адчувальна зменшыўся тавараабарот. У многіх беларусаў грошай хапае на тое, каб толькі харчавацца нармальна і не галадаць, адкладваць грошы на буйныя пакупкі няпроста.

Ды і ўпершыню за многа гадоў аб'ёмы айчыннага ВУП пачалі падаць з-за "прасеўшага" моцна рынку збыту ў Расіі. Аднак і з другім важнейшым гандлёвым партнёрам Еўрасаюзам аб'ём тавараабароту ў мінулым 2015 годзе знізіўся на 5,5 млрд. долараў. Падае не толькі беларускі экспарт, але і імпарт да нас, а гэта ўжо адчувальная лічба і трывожны фактар. Таму і не дзіўна, што сталі мы жыць горш: калі ў пачатку чэрвеня летась даходы на аднаго беларуса складалі ў сярэднім па 240 USD у месяц, то сёлета ў сакавіку на аднаго члена сям'і маем толькі 147 долараў.

Пагадзіцеся, гэта не густа пры высокіх цэнах, калі павысілася кватплата і асабліва калі ведаць, што ў нашых суседзяў літоўцаў сярэднямесячныя пенсіі пачынаюцца ў раёне 240 еўра. А вось у такой краіне, як Фінляндыя, замахнуліся на тое, каб з наступнага 2017 года кожны самы бедны фін меў часткова мінімальны базавы даход 550-750 еўра ў месяц. У дадатак да існуючых праблем сёлета ў працаўнікоў сельскай гаспадаркі напярэдадні веснавой пасяўной катастрафічна не хапала мінеральных угнаенняў. І ўжо не здзівіла нікога паведамленне Белстата, што ў палове раёнаў Беларусі сярэдняя зарплата працоўных "чыстымі" без выплат падаткаў апусцілася меней 200 долараў. На рукі людзі атрымоўваюць і таго меней, за шчасце лічыцца прынесці дамоў 3,5 – 4 млн. рублёў, а ў недалёкім мінулым было, штомесячныя заробкі, сапраўды, былі па 500 і болей USD.

Адначасова, як вядома, беларускі лідар вырашыў не гуляць у "незразумелую дэмакратыю" і было прынята за пару тыдняў рашэнне аб паэтапным павышэнні пенсійнага ўзросту. Яшчэ беларускім заводам і фабрыкам зноў загадалі любой цаной разгрузіць перапоўненыя склады з айчыннымі таварамі. Такое мы ўжо праходзілі і раней. Самае ж прыемнае паведамленне прыйшло аб тым, што напрыканцы сакавіка Беларусь атрымала нарэшце паўмільярда долараў еўразійскага крэдыту і сродкі ў памеры 500 млн. USD паступілі ў рэспубліканскі бюджэт.

Праўда, наша краіна разлічвала, што грошай з Усходу прыйдзе болей, а першы транш складзе 1,1 млрд. долараў. Гэты доўгачаканы крэдыт, як паведамілі дзяржаўныя СМІ, з Масквы пойдзе па падтрымку рэформ урада і Нацбанка Беларусі, каб зрабіць айчынную эканоміку болей устойлівай і аднавіць эканамічны рост (сёлета ў студзені-лютым быў спад яшчэ на 4 %). Усяго ж нам выдаткавалі 2 млрд. долараў, але іх разбілі на 7 траншаў на перыяд 2016-2018 года. Таксама і нас з вамі чакаюць новыя выпрабаванні, бо крэдыторы прымусяць зацягнуць болей паясы праз павелічэнне праз 1,5 года да 70-праэнтнай аплаты насельніцтвам поўнага кошту паслуг ЖКГ.

З іншага боку гэты крэдыт своеасаблівая дапамога беларускай эканоміцы і змяншае рызыку горшага развіцця падзей і далейшага яе падзення. Таксама нашай краіне неабходна працягваць няпростыя перамовы і з МВФ па атрыманні новага крэдыту. Адначасова ў беларускай сталіцы прайшла нядаўна нарада па пытанні далучэння Беларусі да Сусветнай гандлёвай арганізацыі. Ужо больш 20 гадоў працягваецца падобны перамоўны працэс, нашы партнёры па ЕАЭС ужо членамі СГА з'яўляюцца, а беларускія ўлады баяцца адкрыцця граніц і што на наш рынак патокам пойдзе больш танная замежная прадукцыя. Аднак пасля адмены санкцый заходнія партнёры сталі настроены больш канструктыўна і на дзяржаўным узроўні было вырашана вярнуцца да актыўнай фазы перамоў, каб мы ў бліжэйшай перспектыве таксама займелі рэжым найбольшага спрыяння ў гандлі.

Таксама днямі мы сталі сведкамі замірэння беларускага кіраўніцтва з самай магутнай дзяржавай у свеце ЗША. Безумоўна, заходнія палітыкі заўважылі канструктыўную ролю афіцыйнага Мінска ў вырашэнні вострай праблемы сепаратысцкага Данбаса ва Украіне і нашу цвёрдую пазіцыю наконт расійскай авіябазы ў кантэксце еўрапейскай бяспекі. А гэта азначае, што беларусам трэба карыстацца дадатковымі шанцамі пашырэння нашай прысутнасці на заходніх рынках і прыцягнення замежных інвестараў. Само жыццё да гэтага падштурхоўвае, паколькі расійскія СМІ цяпер пішуць, што спад у эканоміцы ўсходняга суседа працягнецца яшчэ 4 гады.

## Дзень за днём

**З пачатку года дзяржаўны доўг Беларусі вырас на 15,4 %. Кароткатэрміновыя банкаўскія ўклады беларусаў сталі абкладацца падаткамі. У краіне пачалі падрыхтоўку да V Усебеларускага народнага сходу. Адмоўнае сальда знешняга гандлю Беларусі ў лютым вырасля яшчэ на 343 млн. USD. А. Лукашэнка даручыў чыноўнікам ад раёнаў да міністраў перасесці на аўтамабілі беларускай вытворчасці. Беларусь у 2 разы сёлета знізіла пастаўкі нафтапрадуктаў у Расію. У першы дзень дэнамінацыі 1 ліпеня банкам дазволілі не абслугоўваць кліентаў.**

# Важнейшыя навіны свету

**Грэцыя.** Згодна дамоўленасцей ЕС і Турцыі ўлады краіны пачалі вяртаць у турэцкі порт Дзікілі партыі нелегальных мігрантаў, цяпер ім шлях адсюль у Еўропу перакрыты.

**ЗША.** Пагроза тэрарызму стала галоўнай тэмай саміту па ядзернай бяспецы ў Вашынгтоне ў адсутнасць прэзідэнта РФ У. Пуціна, які ўсё болей становіцца сусветным ізгоем.

**Украіна.** З-за больш высокіх цэн, чым у еўрапейскіх пастаўшчыкоў "Нафтагаз Украіны" адмовіўся з красавіка купляць газ у расійскага манапаліста "Газпрама".

**Азербайджан.** Пасол краіны ў РФ Палад Бюльбюль Аглы заявіў, што краіна-агрэсар Арменія павінна пакінуць тэрыторыю Карабаха, інакш праблему вырашым вайной.

**Расія.** На радыё "Эхо Москвы" Ю. Латыніна заявіла, што прэзідэнт Турцыі Р. Эрдаган таксама мае права на свой "Крымнаш" і ён абыграе самога Пуціна ў Карабаху.

**Саудаўская Аравія.** Прынц Махамед пацвердзіў, што краіна пачынае ствараць самы вялікі ў свеце Фонд нацыянальнага дабрабыту ў памеры 2 трыльёны долараў і рэформы эканомікі.

**ЗША.** Прэзідэнт Б. Абама папярэдзіў, што глабальнай пагрозай для ўсяго чалавецтва з'яўляецца магчымае пападанне ядзернай зброі ў рукі фанатыкаўэкстрэмістаў.

**Расія.** Тэлеканал РБК паведаміў, што 125 тысяч прадпрыемстваў РФ звольняць і скароцяць неўзабаве шмат персаналу, беспрацоўных у краіне стане ўжо летам 7 мільёнаў чалавек.

**В'етнам.** Упершыню ў гісторыі парламента Нацыянальны сход краіны ўзначаліла 62-гадовая жанчына Нгуен Тхі Кім Нган, былы міністр працы і па справах інвалідаў.

**Англія.** Урад краіны павысіў з красавіка мінімальную зарплату да 1134 фунтаў (1625 долараў) у месяц, да 2020 года такія заробкі брытанцаў яшчэ болей павялічацца.

**Польшча.** Гіпермаркеты і буйныя гандлёвыя цэнтры прыгранічнага Падляшскага ваяводства з 1 мая ўводзяць скідкі на 10 % на шэраг тавараў для пакупнікоў з Беларусі.

**Егіпет.** Група міжнародных археолагаў знайшла ў мясцовасці Гебель-Эль-Сільсіла горад "мёртвых" узростам 3400 гадоў перыяду найвышэйшага росквіту старажытнай эпохі.

**Расія.** Газета "Новые Известия" паведаміла, што рускія хутка пачнуць плаціць па ініцыятыве дэпутатаў Дзяржаўнай думы РФ новы падатак – на ўтрыманне могілак.

**Англія.** Адна з буйнейшых штодзённых газет краіны "Independent" выйшла апошні раз у папяровай версіі і стала існаваць толькі ў электроннай інтэрнэт анлайн-версіі.

**Бразілія.** З-за траўм двух сваіх асноўных гімнастаў зборная Беларусі адмовілася ад барацьбы за пуцёўку на Алімпіяду-2016 года, бо ім не знайшлося дастойнай замены.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# «Чаму снежаньскія горш за травеньскіх?» Пенсійная рэформа падзяліла беларусаў па даце нараджэння



■ FINANCE.TUT.BY

**Якое мае быць павышэнне пенсіённага ўзросту нечакана падзяліла беларусаў па даце нараджэння. Аказалася, што некаторыя грамадзяне, якія нарадзіліся ў першым паўгоддзі, будуць выходзіць на пенсію на 6 месяцаў раней тых, хто нарадзіўся з 1 ліпеня ўключна. У Міністэрстве працы кажуць, што зрабіць інакш было немагчыма.**

«Паглядзеў на табліцу аб выхадзе на пенсію па новых правілах і абурыўся! Атрымліваецца, калі я нарадзіўся ў снежні 1957 года, то я выйду на пенсію ў 61 год - у другой палове 2018 года. А, дапусцім, мой калега -аднагодка, які нарадзіўся ў маі, пойдзе гуляць ужо ў наступным годзе, у 60,5 года, - абурыўся чытач Мікалай Іванавіч. - І чым жа снежаньскія горш травеньскіх? »

Падобных пытанняў за апошнія дні ў рэдакцыю паступіла некалькі дзясяткаў. З-за таго, што павышаць пенсійны ўзрост вырашылі з пачатку 2017 года з крокам на паўгода, для некаторых беларусаў выхад на заслужаны адпачынак адсунуўся адразу на год. І прычына - менавіта ў даце нараджэння.

«Пры бягучай дэмаграфічнай сітуацыі і чаканых інтэнсіўных тэмпах старэння насельніцтва магчымасцяў для рэалізацыі больш плаўнага павышэння пенсійнага ўзросту не маецца», - цытуе БЕЛТА словы намесніка міністра працы і сацыяльнай абароны Валерыя Кавалькова.

Паводле яго слоў, зрабіць выключэнне для асобных катэгорый (напрыклад, для жанчын і мужчын, якім у 2017 годзе споўніцца 55/60 гадоў адпаведна), немагчыма.

«Калі захаваць ранейшы ўзрост для нейкай групы, то заўсёды будуць новыя групы прэтэндэнтаў на палёгку, таму што розніца ў даце нараджэння ў адзін дзень будзе пазбаўляць іх права на пенсію па ранейшых правілах. Гэта значыць на ўсталяванне выключэнняў кожны раз будзе прэтэндаваць новая група людзей», - растлумачыў намеснік міністра.

Разбежка ў выхадзе на пенсію з-за даты нараджэння знікне, «калі ў другой палове 2022 года на пенсію выйдуць мужчыны, якія нарадзіліся ў другім паўгоддзі 1959 года, і жанчыны, якія нарадзіліся ў другой палове 1964 года».

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Жлобін.** Як і чакалася, Еўрасаюз пачаў антыдэмпінгавае расследванне па факце паставак па заніжаных цэнах металапрадукцыі і арматуры мясцовага БМЗ у 31 краіну кантынента.

**Мінск.** Вядомы эканаміст Я. Раманчук заявіў, што абодва бакі вінаватыя ў зрыве перамоў па стварэнні аўтаканцэрна МАЗа і расійскага КамАЗа, гэта дрэнна для нашай эканомікі.

**Гродна.** Інтэграцыйны праект з ААТ "ГродныАзот", як пацвердзіў прэм'ер-міністр Беларусі А. Кабякоў, не зацікавіў Расію, бо рускія палічылі, што ён надта дарагі для іх.

**Мінск.** Па ўмовах зімоўкі азімых зерневых, як пацвердзіў намеснік гендырэктара НПЦ НАН Беларусі Д. Лужынскі, гэты год адзін з лепшых у гісторыі, пацярпеў толькі рапс.

**Гомель.** Беларускі эксперт не хутка адновіць, як папярэдзіў эканаміст А. Алфімаў, свае дакрызісныя паказчыкі, прадукцыя многіх айчынных гігантаў стала мала каму патрэбная.

**Мінск.** Крызіс у дзяржавах ЕАЭС пад эгідай Крамля, як заявіў палітолаг А. Класкоўскі, у многім тлумачыцца даволі адсталым, сыравінным характарам найперш эканомікі Расіі.

**Ашмяны.** Мытнікі на граніцы з Літвой канфіскавалі 2 аўтамабілі Lexus і BMW коштам 3 млрд. рублёў, якія схавалі ў фуры і перавозілі сярод шын, веласіпедаў і калёс.

**Брэст.** На граніцы грамадзянка Расіі адмовілася плаціць штраф за неаплату язды па платнай дарозе, закрылася ў сваёй машыне больш чым на 12 гадзін да прыбыцця консула.

**Мінск.** Сваёй сям'і і бацькам прысвяціла перамогі тэнісістка Вікторыя Азаранка на трох запар буйнейшых міжнародных тэнісных турнірах, яна імкліва вярнулася ў эліту ў свеце.

**Навагрудак.** Жыхар райцэнтра ва ўзросце 59 гадоў на падпітку да смерці моцна збіў свайго дваюрнага брата толькі за тое, што той ударыў ягонага сабаку.

**Мінск.** Судовыя выканаўцы заблакіравалі старшыні АГП А. Лябедзьку мабільны тэлефон і прыгразілі арыштаваць легкавы аўтамабіль "WV-Джэтта" 2006 г. выпуску.

**Гомель.** Міліцыя затрымала ў абласным цэнтры ноччу групу наркакур'ераў з Мінска, якія дастаўлялі розныя псіхатропныя рэчывы ў шэраг буйных гарадоў краіны.

**Раўбічы.** Трохразовая алімпійская чэмпіёнка па біятлоне Дар'я Домрачава паведаміла аб сваёй цяжарнасці і родах у кастрычніку, але абяцала яшчэ зімой вярнуцца ў вялікі спорт.

**Гомель.** У 30-гадовага прадпрымальніка з В'етнама з відам на жыхарства ў Беларусі канфіскавалі больш 4 тысяч адзінак адзення і абутку на агульную суму 870 мільёнаў рублёў.

**Мінск.** Першы віцэпрэзідэнт НАК Беларусі М. Рыжанкоў пацвердзіў, што сума прызавых за медалі на Алімпіядзе-2016 не змянілася, чэмпіён атрымае 150 тыс. долараў прызавых.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** На пазачарговай сесіі абласнога савета дэпутатаў новым старшынёй аднадушна выбралі У. Цярэнц'ева, які курыраваў пытанні развіцця сацыяльнай сферы ў гэтай вобласці.

**Лёзна.** На тэрыторыі раёна міліцыя затрымала адразу 32 фуры з садавінай і гароднінай, якую везлі ў Расію, груз канфіскавалі, бо ён падпадаў у санкцыйны пералік тавараў РФ.

**Браслаў.** Рабочыя трэста "Белтрансбуд" пачалі мантаж новага тэхналагічнага абсталявання прэсавага цэха і аддзялення падрыхтоўкі торфу на заводзе "Браслаўскі".

**Полацк.** Лакаматыўнае дэпо адрамантавала і пафарбавала трактар да веснавой сяўбы для падшэфнага КУСХП "Захарнічы", а аўтапарк № 2 – нават 2 для ААТ "Астроўшчына".

**Чашнікі.** Дырэктар прыватнай фірмы "Метрасалес" па выпуску камплектуючых для ферм Павел Беліжэнка атрымаў званне "Лепшы кіраўнік года вобласці" сярод прадпрыемстваў.

**Глыбокае.** У раённым цэнтры прайшоў абласны занальны семінар-нарада бухгалтараў і эканамістаў гаспадарак рэгіёна і райсельгасхарчаў па павышэнні эфектыўнасці дзейнасці.

**Наваполацк.** Супраць прыватнай фірмы "Белсплат" распачалі справу па парушэннях антыманапольнага заканадаўства, налічылі 6 мільярдаў рублёў штрафу за тарыфы дамафонаў.

**Орша.** У горадзе і раёне пачалі ўстаноўку больш 220 памятных прыгожых таблічак "Тут жыве ветэран Вялікай Айчыннай вайны. Дзякуй за Перамогу!", працу завершаць да 9 мая.

**Полацк.** У вёсцы Сушына ад выпальвання сухой расліннасці трагічна загінуў побач з домам 70-гадовы мужчына, пенсіянер стаў першай ахвярай веснавых палаў у Беларусі.

**Паставы.** На працягу 10 дзён у раённым цэнтры з блаславення епіскапа Полацкага і Глыбоцкага Феадосія працавала праваслаўная выстаўка-ярмарка "Кладзезь".

**Шуміліна.** Выкладчыца мясцовай школы мастацтваў Алена Скорынава з 10 выхаванцамі цымбалістамі і піяністамі далі канцэрт майстар-клас для студэнтаў ВДУ імя П. Машэрава.

**Віцебск.** Віцьблянін Уладзіслаў Ганчароў стаў двухразовым чэмпіёнам Еўропы па скачках на батуце сярод мужчын і ў пары з Мікалаем Казаком у сінхронных скачках.

**Полацк.** У мясцовым дзяржаўным універсітэце пачала працаваць першая ў вобласці лабараторыя з 3D прынтарам для вырабу па заказах унікальных дэталяў складанай канфігурацыі.

**Віцебск.** У аўтамабільным салоне "ВіцебскАўтаСіці" ў дзень прэзентацыі навінкі класа В расійскага аўтапрама – "LADA Vesta" гэту мадэль купілі адразу трое жыхароў вобласці.

**Наваполацк.** За суткі да пачатку чэмпіянату Беларусі па футболе ФК "Нафтан" прайшоў працэдуру ліцэнзавання пасля пагашэння даўгоў па зарплаце ігракам каманды.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

■ Уладзімір Скрабатун

# Герой не наш, але памяць аб ім застанецца назаўсёды,

## альбо Хто надаў Глыбокаму статус горада?

Яшчэ не так даўно, у савецкія часы, асоба Юзафа Пілсудскага, у нашай гістарыяграфіі, разглядалася досыць негатыўна. Зразумела, не без удзелу гэтага чалавека ў 1918-м Польшча аднавіла сваю незалежнасць, больш таго, палякам, паводле Рыжскай мірнай дамовы ад 18 сакавіка 1921 г, яшчэ і ўдалося адрэзаць ад Савецкай Расіі частку Беларусі і частку Украіны. І Глыбокае, натуральна! А сама адроджаная Польшча ніяк не стала на шлях сацыялізму і апынулася ў капіталістычным лагеры. У літаратуры таго часу мы сустракаем ўсялякія негатыўныя эпітэты: ворагі савецкай улады, пілсудчыкі, белапалякі…



Юзаф Пілсудскі ў маладыя гады. *Фота з Вікіпедыі.*

### У 1935 годзе ў Глыбокім пасадзілі дуб з нагоды набыцця паселішчам статусу горада паводле рашэння Юзафа Пілсудскага

**Głębokie**

**Święto Lasu** na terenie powiatu dziśnieńskiego miało przebieg uroczysty. W Głębokiem w godzinach rannych odbyły się nabożeństwa w świątyniach wszystkich wyznań oraz okolicznościowe pogadanki w szkołach. W godzinach popołudniowych na placu 3go Maja wobec przedstawicieli władz, wojska oraz licznie zgromadzonej publiczności, został posadzony dąb na pamiątkę **podniesienia w roku 1921 osady Głębokie do kategorji miast przez ówczesnego Naczelnika Państwa Józefa Piłsudskiego**. Przemówienie imieniem miasta wygłosił prof. Czarnodolski, poczem został podpisany akt pamiątkowy, który będzie przechowany w zarządzie miasta. Po tej uroczystości uformował się pochód, na którego czele kroczył Związek Leśników ze sztandarem oraz oddział wojskowy KOP Po przejściu ulicami miasta przybył pochód na dziedziniec gimnazjalny gdzie została **założona szkółka drzew**, które w latach następnych będą sadzone na drogach i placach publicznych.

Газета "Kurjer Wileński", №118 ад 2 траўня 1935 г, паведамляе: **"Глыбокае**. **Свята Лесу** на тэрыторыі Дзісненскага павета прайшло ўрачыста. У Глыбокім у ранішніх гадзінах адбыліся набажэнствы ў святынях усіх вызнанняў, а таксама тэматычныя гутаркі ў школах. У пасляабедзенны час на плошчы 3 Мая, у прысутнасці ўладаў, войска і вялікай колькасці людзей, быў пасаджаны дуб на памяць пра **падвышэнне ў** 1921 **годзе паселішча Глыбокае да катэгорыі гарадоў тагачасным Кіраўніком Дзяржавы Юзафам Пілсудскім.** З прамовай ад імя горада выступіў прафесар Чарнадольскі, пасля чаго быў падпісаны памятны акт, які будзе захоўвацца ў гарадской управе. Пасля гэтай урачыстасці сфармавалася калона, на чале якой ішоў Звяз Леснікоў са штандарам, а таксама вайсковы аддзел КОП. Пасля маршу вуліцамі горада калона прыбыла на дзядзінец гімназіі, дзе быў **закладзены пітомнік дрэваў**, якія ў наступныя гады будуць пасаджаныя на дарогах і ў грамадскіх месцах".

У 1991-м Беларусь стала незалежнай краінай, і мы цяпер маем маральнае права перагледзіць усе састарэлыя савецкія догмы. Найперш тое, што адносіцца да нашага краю. І мы ўбачым ісціну – герой, здаецца, і не наш, але памяць аб ім застанецца назаўсёды!

Не будзем браць да ўвагі далёкія часы Вялікага Княства Літоўскага, калі палова Глыбокага лічылася горадам, а іншая – мястэчкам, бо гэты падзел – досыць дыскусійны. Перад сконам Расійскай імперыі Глыбокае, усё ж, афіцыйна лічылася мястэчкам і цэнтрам воласці.

Вы, шаноўнае спадарства, падумаеце, што статус горада Глыбокае аднавіла толькі з прыходам савецкай улады пасля 17 верасня 1939 года? Не! Статус горада Глыбокаму надаў Юзаф Пілсудскі, начальнік польскай дзяржавы. І ад гэтага факта ніяк не адмахнуцца, як бы мы ўсе не ставіліся да гэтай гістарычнай асобы. Адзінае – мы сёння пакуль не ведаем дакладную дату гэтай падзеі. Газеты таго часу блытаюцца: у адных публікацыях названы 1921-ы, у іншых – 1922-і год. Але, адназначна, гэта быў росчырк пяра Юзафа Пілсудскага.

У архіве нашай газеты, дзякуючы даследаванням краязнаўцы Кастуся Шыталя, знаходзяцца дзясяткі копій газетных публікацый 1920-30-х гг па ўшанаванні памяці першага кіраўніка незалежнай Польшчы Юзафа Пілсудскага ў Дзісненскім павеце. Так як сталіцай Дзісненскага павету было Глыбокае, то адпаведныя пастановы і рашэнні прымаліся ў Глыбокім.

Прапануем Вам, шаноўнае спадарства, толькі адно з такіх рашэнняў глыбоцкіх уладаў, якое апублікаванае ў газеце "**Kurjer Wileński**" ў №98 ад 1936 года:

**"Мясцовасці на Дзісненшчыне, у якіх будзе ўшанаваная памяць Маршалка.**

6 дня бягучага месяца адбылося пасяджэнне Камітэту Урачыстасці і Увекавечвання Памяці Маршалка Польшчы Юзафа Пілсудскага, на якім абмяркоўвалася справа ўслаўлення памяці ў мясцовасцях, якія звязаныя з жыццём і чынамі Маршалка, а менавіта:

У **Дрыгучах**[1] – на памяць бітвы, якая адбылася 4.7.1920 г супраць 4-ай савецкай арміі з [польскімі] 33 п(яхотным) п(алком), 155 п.п. і 2 швадронам 13 п(алка) уланаў.

У **Язне**[2] – на памяць бітвы, што адбылася ў дзень 4.7.1920 з бальшавікамі і 29 п.п., дзе палегла каля 300 польскіх жаўнераў.

У **Навасёлках**[3] – на памяць баёў 4.7.1920 г 19 брыгады з 15-й савецкай арміяй.

У **Задарожжы** – на памяць бітваў у дзень 5.7.1920 г 39 п.п. у прыкрыцці польскіх войскаў, якія адыходзілі з-над ракі Мнюты, дзе цалкам загінуў 3 батальён гэтага палка[4].

У **Забор'і** – дзе артылерыя польскіх войскаў у ліпені 1920 г прыкрывала перамяшчэнне адступаючых аддзелаў.

У **Чарнёўцах**[5] – дзе ў днях 23, 24 і 25 чэрвеня 1920 г аддзелы 1-ай літоўска-беларускай дывізіі[6] затрымалі напор 3-яй савецкай арміі.

У **Глыбокім** – будзе ўзведзены помнік на даўніх абаронных акопах польскіх войскаў, а таксама ў Дзісне на памяць заняцца гэтага горада польскімі войскамі.

Незалежна ад гэтага ў маёнтку **Барыскавічы** будзе змешчаная шыльда на памяць укрывання тут Маршалка Юзафа Пілсудскага пасля бязданьскай акцыі ў 1904 г[7], разам з гэтым шыльда на будынку староства[8] ў **Глыбокім** на памяць побыту Маршалка ў 1922 годзе".

***

Герой не наш, але памяць аб ім застанецца назаўсёды! Можна прапанаваць глыбоцкім уладам, а найперш аддзелу спорту і турызму, адзначыць факт знаходжання Юзафа Пілсудскага ў Барыскавічах на сядзібным доме Дабашыньскіх, які захаваўся, не мемарыяльнай, а інфармацыйнай шыльдай, а таксама **QR**-кодам. Прыкладны тэкст: *"У гэтым доме, у 1908 годзе, хаваўся ад праследу царскіх уладаў Юзаф Пілсудскі, польскі ваенны і палітычны дзеяч, барацьбіт за незалежнасць Польшчы, першы кіраўнік незалежнай Польшчы ў 1918-1922 гг. і галоўнакамандуючы Войска польскага з 11 лістапада 1918 г., першы Маршал Польшчы з 1920 г.; двойчы Прэм'ер Польшчы (1926-1928 і 1930)".*

Улічваючы і сёння вялікую пашану палякаў да Юзафа Пілсудскага, нашым уладам **варта скарыстаць сітуацыю**. Вельмі верагодна, што гэты факт знойдзе водгук у польскім грамадстве, з'явіцца фундатар, які ўкладзе сродкі ў рэстаўрацыю і рэгенерацыю колішняга маёнтка ў Барыскавічах. Можна адрамантаваць сядзібны дом, аднавіць прысядзібны парк, прысады, сажалкі і некаторыя страчаныя будынкі. У нас можа з'явіцца цікавы турыстычны аб'ект – Прошкава-Барыскавічы!

### Наша даведка:



QR-**код** – гэта двухмерная рыска-код, які прыдумалі ў японскай кампаніі "Denso Wave" ў далёкім 1994 годзе. QR гэта скарачэнне ад quick response, што азначае "хуткі водгук". Магчымасць распазнання кодаў сканавальным абсталяваннем робіць іх такімі папулярнымі. У QR-код можна ўпакаваць любую інфармацыю, тэкст, URL. Гэта значыць, што накіраваўшы ваш мабільны тэлефон на QR-код, на яго маніторы, вы зможаце прачытаць усю патрэбную інфармацыю.

Для стварэння кодаў існуюць сайты-генератары, дзе кожны можа бясплатна стварыць свой код.

QR-коды актыўна выкарыстоўваюцца музеямі, а таксама і ў турызме, як уздоўж турыстычных маршрутаў, так і ў розных аб'ектах. Гэта дазваляе індывідуальнаму турысту лёгка арыентавацца ў горадзе, нават не ведаючы мовы, бо QR-коды ўсталяваны на некалькіх мовах.

**Miejscowości w Dziśnieńszczyźnie w których uczczona zostanie pamięć Marszałka**

6 b. m. w Głębokiem odbyło się posiedzenie Komitetu Uroczystości i Uwiecznienia Pamięci Marszałka Polski Józefa Piłsudskiego, na którem rozważano sprawę ustawienia pamiątek w miejscowościach, związanych z życiem i czynami Marszałka, mianowicie:

**W Dryhuczu** — na pamiątkę bitwy, stoczonej w dniu 4.7.1920 r. przeciw 4-ej armji sowieckiej przez 33 p. p., 155 p. p. i 2 szwadron 13 p. ułanów,

**w Jaźnie** — na pamiątkę bitwy, stoczonej w dniu 4.7 1920 r. z bolszewikami przez 29 p. p., gdzie padło około 300 żołnierzy polskich,

**w Nowosiołkach** — na pamiątkę walk w dn. 4.7 1920 r. 19 brygady z 15-tą armją sowiecką,

**w Zadrożu** — na pamiątkę walk w dn. 5.7 1920 r. 39 p. p. w osłonie wojsk polskich, cofających się z nad rzeki Mniuty, gdzie zginął cały 3 batalion tego pułku,

**w Zabożu**, gdzie artylerja wojsk polskich osłaniała w lipcu 1920 r. odwrót cofających się oddziałów,

**w Czerniowcach**, gdzie w dniach 23, 24 i 25 czerwca 1920 r. oddziały 1-ej dywizji litewsko-białoruskiej zatrzymały napór 3-ej armji sowieckiej.

**W Głębokiem** zostanie wzniesiony pomnik na dawnych okopach obronnych wojsk polskich oraz w Dziśnie na pamiątkę zajęcia tego miasta przez wojska polskie.

Niezależnie od tego będzie umieszczona w maj. **Boryskowicze** tablica na pamiątkę ukrywania się tam Marszałka Józefa Piłsudskiego po akcji bezdańskiej w 1904 r. oraz tablica na gmachu starostwa w Głębokiem na pamiątkę pobytu Marszałka w 1922 r.

**Публікацыя "Мясцовасці на Дзісненшчыне, у якіх будзе ўшанаваная памяць Маршалка" ў "Kurjery Wileńskiem", №98 ад 1936 года.**



**Барыскавічы. Сядзібны дом Дабашыньскіх, здымак 1905 г. Перад ганкам сядзяць (ад правай рукі): Ядвіга, Ганна і Ян, за ім – Станіслаў.** *Фота Wiesław Doboszyński.*

**Тлумачэнні па тэксце:**

1. Цяпер – Мёрскі раён.

2. У Язне існуюць могілкі польскіх жаўнераў з надмагільнымі крыжамі, стылёвападобнымі з тымі, якія знаходзяцца на цвінтары Копцеўка ў Глыбокім.

3. Не блытаць Навасёлкі Дзісненскага павету з Навасёлкамі Пастаўскага павету.

4. За 300 крокаў на паўночны захад ад задарожскага касцёла, на цвінтары, і сёння знаходзяцца пахаванні польскіх жаўнераў.

5. У Чарневічах (памылка, альбо варыянт напісання назвы).

6. У раёне возера Гінькава – на паўднёвым высокім беразе – і да сёння існуюць ланцугі акопаў з той пары. Аматарам вандровак можна параіць адправіцца па "мясцінах баявой славы" дзядоў, змагароў з савецкай уладай. Назва дывізіі – літоўска-беларуская – хутчэй па тэрытарыяльнай, а не нацыянальнай прыкмеце. Менавіта гэтая дывізія пад камандаваннем Люцыяна Жалігоўскага і вызваліла нашу Вільню ад жамойтаў (сённяшніх літоўцаў), якую ім падарыў Ленін.

7. Памылка! Гэта было ў 1908-м, а не ў 1904-м годзе.

26 верасня 1908 г. баявая арганізацыя пад кіраўніцтвам Юзафа Пілсудскага правяла ўдалую аперацыю пад Бязданамі, напаўшы на паштовы вагон цягніка, які праязджаў праз аддаленую на 25 км ад Вільні станцыю. Баявікі здабылі каля 200 тыс. рублёў. Грошы пайшлі на аплату пазык арганізацыі і падтрымку арыштаваных і іх сем'яў.

8. Будынак, які сёння прылягае з правага боку да царквы (былы будынак кляштара кармелітаў).

# Як не стаць ахвярай хатняга тырана?



**З мэтай прыцягнення ўвагі шырокіх слаёў насельніцтва да праблем гвалту ў сям'і, тлумачэння грамадзянам неабходнасці садзейнічання дзяржаўным органам у мінімізацыі наступстваў правапарушэнняў, якія ўчыняюцца на гэтай глебе, тлумачэння і эфектыўнага прымянення палажэнняў Закона Рэспублікі Беларусь ад 4 студзеня 2014 года "Аб асновах дзейнасці па прафілактыцы правапарушэнняў" з 18 па 30 красавіка 2016 года на тэрыторыі Глыбоцкага раёна праводзіцца рэспубліканская прафілактычная акцыя "Дом без гвалту!".**

■ **А.І.Гігола,**
*начальнік ААПП Глыбоцкага РАУС, падпалкоўнік міліцыі*

Перш за ўсё, хатні гвалт – гэта паўтаральны з павелічэннем частаты цыкл: фізічнай, слоўнай, духоўнай і эканамічнай абразы з мэтай кантролю, запалохвання, выклікання пачуцця страху адным членам сям'і ў адносінах да іншага або іншых: сітуацыя, у якіх адзін чалавек кантралюе або спрабуе кантраляваць паводзіны і пачуцці іншага.

**Як не стаць ахвярай хатняга тырана? Што рабіць, калі ў Вашай сям'і ўжо мае месца гвалт?**

**1.** Калі склалася крытычная сітуацыя, то паспрабуйце неадкладна пакінуць кватэру.

**2.** Калі здзекі носяць сістэматычны характар, то загадзя трэба сабраць самыя неабходныя рэчы і пакінуць іх у бяспечным месцы – у родных ці сяброў.

**3.** Заўсёды трымайце дакументы, ключы і грошы ў такім месцы, каб, пакідаючы кватэру, вы маглі хутка ўзяць іх з сабой.

**4.** Папрасіце суседзяў, якім вы больш за іншых давяраеце, каб яны выклікалі міліцыю, калі пачуюць з вашай кватэры крыкі.

**5.** У выпадку ж, калі вы не можаце выйсці з кватэры, неабходна:

■ замкнуцца ў ваннай з тэлефонам і паспрабаваць выклікаць міліцыю;

■ патэлефанаваць сябрам ці суседзям і папрасіць іх прыйсці на дапамогу;

■ гучна клікаць на дапамогу;

■ адкрыць вокны, паспрабаваць прыцягнуць увагу мінакоў і папрасіць іх аб дапамозе.

**6.** Калі вам усё-такі ўдалося выскачыць на лесвічную пляцоўку, то званіце ва ўсе дзверы, крычыце і клічце на дапамогу. Нават калі ніхто не выйдзе, па меншай меры, гэта можа астудзіць нападаючага, а ў вас будуць сведкі здарэння ў выпадку, калі вы ў далейшым звернецеся ў міліцыю.



**У вырашэнні праблем гвалту ў сям'і Вам дапамогуць:**

**1.** Праваахоўныя органы. Калі Вы падвергнуліся сямейнай жорсткасці, звярніцеся ў Глыбоцкі РАУС па тэлефоне 102, 2-27-02.

**2.** Псіхолагі і юрысты бясплатнай гарачай тэлефоннай лініі для пацярпелых ад хатняга гвалту 8-801-100-8-801. Лінія працуе штодня з 8:00 да 20:00. Патэлефанаваць можна з любой кропкі Рэспублікі Беларусь. Дапамога аказваецца ананімна і бясплатна.

**3.** Глыбоцкі тэрытарыяльны цэнтр сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва (у дзённы час у аддзяленне сацыяльнай адаптацыі і рэабілітацыі па тэлефоне 2-27-25).

**4.** Установа аховы здароўя "Глыбоцкая ЦРБ". Калі вы пацярпелі ад фізічнага гвалту, звярніцеся за медыцынскай дапамогай у прыёмны пакой па тэлефоне 5-42-58 і зафіксуйце пабоі.

# «Газпром» не мае намеру зніжаць цану на газ для Беларусі

**ААТ "Газпром" лічыць немэтазгодным зніжаць цану на газ для Беларусі, заявіў намеснік старшыні праўлення газавай кампаніі Валерый Голубеў.**

"У нас жа формула з Беларуссю вельмі простая. Мы бярэм цану вытворчасці ў Ямала-Ненецкай акрузе і да яе прыбаўляем цану транспарціроўкі, нічога лішняга. І гэты прынцып быў падпісаны. Чаму мы павінны сёння прадаваць газ Беларусі танней, чым прадаем яго ў Расіі?" – заявіў Голубеў РИА Новости.

Ён зазначыў, што існуюць розныя формулы цэнаўтварэння на газ. "Ёсць формулы, напрыклад, звязаныя з нафтавымі каэфіцыентамі, а Беларусь ішла па іншым шляху, яны ж самі не пайшлі на формулу, прывязаную да нафтавых эквівалентаў, яны захацелі цану, як у Расіі, плюс транспарт. Сёння беларускія калегі кажуць – не, мы хочам, каб было па-іншаму. Ну, трэба быць паслядоўнымі", – адзначыў топ-менеджар "Газпрома".

Голубеў удакладніў, што цяпер кошт для Беларусі складае 132 долары за тысячу кубаметраў. Адказваючы на пытанне, ці можа быць зробленая саступка беларускаму боку ў кошце, ён адзначыў, што існуе міжурадавае пагадненне, якое вызначае формулу цаны паставак расійскага газу.

Нагадаем, раней у інтэрв'ю "РИА Новости" прэм'ер-міністр Беларусі Андрэй Кабякоў назваў галоўнай праблемай прывязку коштаў на расійскія энерганосьбіты да долара. Так, паводле яго слоў, у пачатку 2014 года цана газу для Беларусі складала 165 долараў за тысячу кубаметраў. Гэта было пры курсе расійскага рубля 32-33 за долар. На 1 студзеня 2015 года цана на газ складала 142 долары за тысячу кубаметраў. "Пры гэтым долар стаў каштаваць больш за 60 расійскіх рублёў. Лагічна, што газ ужо павінен каштаваць прыкладна 80 долараў, а ў нас 142", – сказаў Кабякоў.

"Аб'ём знешняга гандлю лецца у нацыянальных валютах паміж краінамі склаў прыкладна 82%. Экспарт Беларусі ў Расію практычна на 100% ідзе ў расійскіх рублях. Імпарт ідзе таксама ў расійскіх рублях. Але ўсе энерганосьбіты мы купляем за долары. Разлічвацца можна і ў расійскіх рублях, але галоўная праблема ў тым, што цэнаўтварэнне прывязанае да долара", – канстатаваў Кабякоў.

*БелаПАН.*

# Прафілактыка цеплатраўматызму

**Аналіз цеплатраўматызму паказвае, што няшчасныя выпадкі з'яўляюцца следствам нізкага ўзроўню тэхналагічнай і вытворчай дысцыпліны персаналу; недастатковага ўзроўню практычнага навучання работнікаў бяспечным прыёмам працы; пагаршэння тэхнічнага стану энергаўстановак з-за парушэння правілаў эксплуатацыі; адсутнасці выразнай сістэмы кантролю і нагляду за вытворчасцю работ у энергаўстаноўках з боку службовых асоб энергаслужб прадпрыемстваў; невыкананне тэхнікі бяспекі персаналам.**

■ **А. Рацьковіч,**
*інспектар энергаінспекцыі Глыбоцкага МРА "Энерганагляд"*

Для прадухілення выпадкаў цеплатраўматызму пры эксплуатацыі энергетычнага абсталявання кіраўнікам прадпрыемстваў і арганізацый неабходна:

■ няўхільна выконваць патрабаванні Правілаў тэхнікі бяспекі пры эксплуатацыі цепласпажывальных установак і цеплавых сетак спажыўцоў;

■ сачыць за ўкамплектаванасцю штатаў адпаведным цеплатэхнічных персаналам, які прайшоў інструктажы і праверку ведаў дзеючых правілаў своечасова і ў поўным аб'ёме;

■ усім кіраўнікам прадпрыемстваў і арганізацый, незалежна ад формаў уласнасці і велічыні гадавога энергаспажывання прызначыць адказных за цеплавую гаспадарку для арганізацыі непасрэднага выканання функцый па эксплуатацыі энергаўстановак згодна патрабаванняў правілаў;

■ абавязаць адказных за цеплавую гаспадарку дадаткова правесці абследаванне энергаўстановак на прадмет іх адпаведнасці ТКП 458-2012 (02230) «Правілы тэхнічнай эксплуатацыі цеплаўстановак і цеплавых сетак спажыўцоў" і ТКП 459-2012 (02230) «Правілы тэхнікі бяспекі пры эксплуатацыі цеплаўстановак і цеплавых сетак спажыўцоў»; выяўленыя недахопы ліквідаваць;

■ укамплектаваць энергаслужбы прадпрыемстваў і арганізацый неабходным штатам цеплатэхнічнага персаналу для забеспячэння бяспечнай і надзейнай эксплуатацыі энергаўстановак.




Грамадзянам пры выяўленні якіх-небудзь парушэнняў у працы цеплаўстановак, вонкавых цеплавых сетак, у тым ліку ўцечак сеткавай вады, інтэнсіўных выпарэнняў, правалаў грунту, фактаў адсутнасці крышак на люках назіральных калодзежаў неабходна неадкладна паведамляць пра гэта ў дыспетчарскія службы адпаведных энергазабеспячальных арганізацый. Таксама не варта набліжацца да месца выпарэння, уцечкі вады, правалу грунту, спускацца ў адкрытыя цеплавыя камеры, калодзежы і г.д.; хадзіць па трубаправодах, канструкцыях і перакрыццях цеплавых сетак; пералазіць праз трубаправоды надземнай пракладкі ў месцах, не абсталяваных пераходнымі масткамі; пранікаць у памяшканні цэнтральных і індывідуальных цеплавых пунктаў, самастойна праводзіць рамонт цеплавога абсталявання. Неабходна памятаць, што любы від энергіі пры няправільным яе выкарыстанні ўтойвае ў сабе патэнцыйную небяспеку, з прычыны чаго пры эксплуатацыі энергетычнага абсталявання неабходна праяўляць абачлівасць і асцярожнасць.

